Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.



Цана асобнага нумару 40.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 320000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 50.000 мк., сярод тэксту 40.000 м. і на 4 стр. 35.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 16. Вільня, Нядзеля, 9-га сьнежня 1923 г. Год I.

## „Nędza oświatowa".

Галасаваньне Сойму ў справе зусім слушных, абапертых на канстытуцыі і зацьверджаных прасьветнай камісіяй дамаганьняў беларускіх паслоў справядлівага трактаваньня ўрадам беларускае школы, адкрыцьця вучыцельскае сэмінарыі (замест дзьвюх зачыненых палякамі!) і г. д., паказала і ўсяму сьвету, і беларускаму народу, што *польская большасьць у Сойме пастанавіла вясьці барацьбу з беларускай асьветай да лёгічнага канца,—інакш кажучы, да поўнага яе зьнішчажэньня.* І пакуль будзе істнаваць урад, абаперты на гэнай большасьці, датуль беларусам нельга спадзявацца на стасаваньне да іх канстытуцыі нават у найменшай меры.

Ацэніваючы гэты крок сучасных „паноў палажэньня", яго нельга разглядаць асобна ад усяе школьнае палітыкі эндэцка-пястоўскага ўраду і соймавае „правіцы". Бо *нішчэньне і недапусканьне беларускае школы ў Заходняй Беларусі раўназначна барацьбе з асьветай насяленьня нашага краю наагул*: у польскую школу ў нас народ або зусім не пасылае дзяцей, або, калі і пасылае, дык мае з яе вельмі малую карысьць, бо тамака на першым пляне стаіць *ня вучэньне, а прышчэпліваньне дзецям „польскага духа"*.

Не дарма куратар віленскага школьнага округу, п. Гонсёровскі, адкрываючы ў віленскім унівэрсытэце табліцу ў памяць 150-лецьця эдукацыйнае камісіі, выказаў пажаданьне, каб, у мысьць наказаў гэнае камісіі, *„усіх зрабіць палякамі,* а палякоў—грамадзянамі". А аб тым, *якая цана ў нас польскае школы з боку навукі*, паслухаем горкія словы эндэцкае газэты „Dzien. Wil.":

„Сярод вясковае люднасьці пачынае выяўляцца даволі вялікая ахвота да вучэньня, але няма шака дзе вучыць, бо ў тых „powszechnych" школах, якія істнуюць, няма ніякага парадку наагул. Вучыцель дастае номінацыю і камандзіруецца ў нейкую школу, і ўсё скончана. Як ён вучыць і ці вучыць, аб гэтым ніхто ў яго ня пытаецца і не кантралюе,—ён можа мець номінацыю, атрымліваць пэнсію і зусім ня вучыць (—так яно запраўды і бывае, дзе народ зусім не пасылае дзяцей у польскую школу, жадаючы беларускай! — *Рэд.*). Польская школа, як такая, істнуе ўжо ад 1915 году, а нават ад часу прыходу немцаў, і ці хоць у аднэй школцы адбыліся экзамены? Ці дзеці дасталі пасьведчаньне, што як сьлед прайшлі гэтулькі - то аддзелаў? — Не!"

Так піша эндэцкі карэспандэнт з Беняконяў, зусім пад бокам Вільні,—дык можна сабе выабразіць, што дзеецца ў польскіх школах далей ад культурных цэнтраў і ад вока „начальства". І можна наагул зрабіць *дужа сумныя вывады аб карысьнасьці ў нас польскіх школ наагул...*

Можа хто падумае, што так блага стаіць польская народная школа толькі на „крэсах"? Ды не! Вось, у тую сераду ў Варшаве пасол Смулікоўскі, выдатны польскі прасьветны дзеяч, прачытаў публічную лекцыю на сэнсацыйную тэму: „Nędza oświatowa w Polsce" („Асьветная галота ў Польшчы") і даў гэткі абраз польскае народнае асьветы наагул. „У Польшчы—на паперы—істнуе 25.000 народных („powszechnych") школ, але з гэтае лічбы толькі 600 саміголак, а 15.000 належыць да аднаклясовага тыпу, дзе бедны вучыцель павінен абслужываць адначасна доўгі рад аддзелаў. Калі да таго заўважаем, што ходзіць дзяцей у школы вельмі мала і што апалу ўзімку найчасьцей ня будзе, дык можа сабе лёгка прадставіць сучасны стан нашае школы. Ня кажам ужо аб тым, што істнуючыя школы толькі ў маленачкай часткі здаволіваюць патрэбу асьветы: на Паморыі на 1000 душ насяленьня маем 180 дзяцей у школах, у Галічыне—160, у Варшаве—67 дзяцей, на Палесьсі—30!" (Прыводзім гэтыя даныя паводле справаздачы „Robotnika"). А абраз пасла Смулікоўскага дапаўняе дыскусія ў асьветнай камісіі Сойму аб нястачы апалу ў школах, асабліва ў вучыцельскіх сэмінарыях, у часе якое дакладчык пасол Цьвяковскі на цыфрах давёў, што з прычыны „беражлівасьці" ўраду няма грошы на апал, і дзеля гэтага шмат школ ужо зачыняецца, а іншым у найбліжэйшым часе пагражае тая самая катастрофа.

Хіба кожнаму зразумела, што найгоршая нават *школа ў роднай мове шмат больш карысьці дае вучням, чым такой-жа вартасьці школа ў чужой мове.* Дык ня дзіва, што тыя, хто падтрымлівае ў-ва ўсей Польшчы „асьветную галоту", ня хочуць дапусьціць у беларускую вёску нават такога маленькага праменьчыка сьвятла праз беларускую школу, які мае польская вёска праз сваю школу ў роднай мове. І галасаваньне соймавае большасьці зусім адпавядае *агульнай асьветнай палітыцы*, якую пасол Смуліковскі ўдачна называе: „nędza oświatowa".

Але пры гэтай „nędzy" асьветы для шырокіх масаў працоўнага народу істнуе ў Польшчы вялікае паказное „багацьцё" ў пастаці 6 унівэрсытэтаў, 2 палітэхнік, некалькіх акадэміяў і г. д. „Для Эўропы" што-году Польшча выпускае, прыкладам, 200 маладых дахтароў, з помачы якіх цёмная, брудная і... галодная вёска ня ўмее і ня мае магчымасьці карыстаць. „Для Эўропы" выкідаюцца міліярды на пасылку на заграгічныя гульні ў мяч (футбол) польскіх гульцоў; а для „свайго" народу няма грошы на апал для школ...

І не адным нам робіцца крыўда ў справе асьветы: пакрыўджанымі зьяўляюцца і польскія працоўныя масы.

## Камунікат сацыялістычнай фракцыі Украінскага Пасольскага Клюбу.

Адарваны ад матчынага пня сусьветным імпэрыялізмам украінскія сялянскія і работніцкія масы украінскіх земляў Валыні, Холмшчыны, Падляшша і Палесься, верныя сваім рэвалюцыйным традыцыям, з неаслабнай энэргіяй далей змагаліся за свае клясовыя і нацыянальныя інтарэсы, згуртаваўшыся ў сацыялістычныя гурткі УПСР і УСДРП (Украін. Партыі Сацыял.-Рэвал. і Укр. Сац.-Дэмакр. Работн. Партыі).

Вынікам гэтай сьвядомасьці сваіх клясовых і нацыянальных інтарэсаў украінскія працоўныя масы вытрымалі сьмяротны бой з польскай імпэрыялістычнай рэакцыяй, дадзены ёю украінскім сялянам і работнікам у часе выбараў да Польскага Сойму і Сэнату ў лістападзе 1922 г.

Украінскае сялянства і работнікі выйшлі пераможцамі з гэтай заядлай барацьбы, выслаўшы да Сойму сваіх прадстаўнікоў, дэлегатаў паасобных сацыялістычных групаў.

Цяжкія ўмовы барацьбы з рэакцыйнаю навалаю з аднаго боку і адсутнасьць рэальных падставаў да ідэйнай розьніцы з другога, рашуча дыктавалі ўсім украінскім актыўна сацыялістычным элемэнтам неабходнасьць утварэньня адзінага украінскага пралетарскасялянскага сацыялістычнага фронту ў першую чаргу на землях Валыні, Холмшчыны, Палесься і Падляшша, а адтуль аб'яднаньне ўсяго украінскага сацыялістычнага руху на ўсіх украінскіх землях пад Польшчаю, так сама і Галіччыны.

Украінскія сацыялістычныя паслы, будучы розных партыйных групаў, аб'яднаўшыся 29 траўня 1923 г. у асобную сацыялістычную фракцыю ў Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі Польскага Сойму ў выніку грунтоўных і ўсестаронных нарадаў з сваімі выбаршчыкамі, партыйнымі групамі, ідучы на спатканьне жыцьцёвай патрэбе актыўных сацыялістычных сілаў нашых земляў, 17 лістапада 1923 г. склікала нараду ў Луцку з прадстаўнікоў усіх істнуючых на землях Валыні, Холмшчыны, Палесься і Падляшша украінскіх сацыялістычных групаў.

На гэтай нарадзе прыняты гэткія рэзалюцыі:

1. Учасьнікі нарады дэкляратыўна выходзяць з дасюляшніх сацыялістычных партыяў і прымаюць праграму Украінскай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі (У. С. Д. П.).

2. Учасьнікі утвараюць абласную арганізацыю Украінскай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі (У. С. Д. П.) Валыні, Холмшчыны, Палесься і Падляшша з месцам сядзібы ў Луцку на Валыні.

3. Да Галоўнага Ураду і Экзэкутывы ў Львове дэлегуецца шэсьць сяброў Управы Абласное Арганізацыі (Экзэкутывы).

4. Выбіраецца рада Абласное Арганізацыі з 13 сябраў і экзэкутыва з 7 сябраў.

Гэткім спосабам самастойнае істнаваньне ўсіх дагэтуль істнаваўшых на нашых землях украінскіх сацыялістычных групаў і гурткоў спынена і яны зьліквідаваны, як паасобныя арганізацыі.

З гэтага дня ўвесь украінскі сацыялістычны рух зьліваецца ў адну Сацыял-Дэмакратычную партыю, ў лучнасьці партыяй Усходняй Галіччыны.

Вітаючы гэтую пастанову, паслы сацыялістычнай фракцыі Украінскай Парлямэнцкай Рэпрэзэнтацыі лічаць пастановы Луцкай Сацыялістычнай Нарады з 17 лістапада 1923 г. для сябе абавязковымі і дырэктыўнымі.

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоўля расьцець. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштаў. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Заахвочвайце да падпіскі другіх!

Яшчэ большай рэакцыйнасьцю нясе ад прынятай камісіяй ахароны працы устава аб свабодзе каоліцыяў, г. зн. аб забясьпячэньні свабоды працы і выкананьня працы", згодна якое накладаюцца высокія кары за „czyny gwałtowne" у часе забастовак і нават за абвяшчэньне байкоту ў часе абвяшчэньня забастоўкі г. з. зноў такі зводзяцца да нуля ўсе забясьпячэньні, даныя канстытуцыяй аб свабодзе забастовак.

Разглядаецца таксама і выпрацаваная Кернікам устава аб *свабодзе друку*, якая надае ўсе прэсовыя праступленьні карным кодэксам быўшых заборчых манархіяў, г. зн., што адносна прэсы будуць стасавацца ўсе тыя законы, якія стасаваліся ў даваенныя часы ў Расеі, Нямеччыне і Аўстрыі. Напр. у нас будзе мець сілу вядомы 129 арт. К. К., які пагражае „за пашырэньне твору, падбураючага да зваленьня існуючага ў Дзяржаве сацыяльнага ладу, або да непадпарадкаваньня закону або законным загадам уладаў, да нянавісьці паміж клясамі, станамі або паміж працадаўцамі і работнікамі"—катаргай да чатырох гадоў. Практыка хаця-б апошняга году канфіскатаў і зачыненьня нашых беларускіх газэт ясна сьведчыць, як шырока ўлады карыстаюцца гэтым правам, падводзячы ўсякую крытыку ўлады, абарону правоў сацыяльна і нацыянальна прыгнечанай люднасьці пад гэты грозны артыкул.

Сьпяшацца цяперашнія паны палажэньня і з правядзеньнем уставы аб асадніцтве і парцэляцыі, якая заместа абяцанай зямельнай рэформы, дасьць зямлю асаднікам на беларускіх і украінскіх абшарах, пакідаючы вялізарныя маёнткі абшарнікам і пакідаючы нашага селяніна, як і раней, бяз зямлі.

Усе гэтыя праекты законаў сьпешна разглядаюцца ў камісіях з тым, каб яшчэ перад Калядамі правясьці іх праз Сойм. Хьена і Пяст чуюць, што іхная большасьць ня вельмі трывалая і стараюцца выкарыстаць час, каб умацаваць сваё палажэньне.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Пераходзячы да Нямеччыны трэба зазначыць, што і тут рэакцыя ўмацоўваецца. Новы габінэт Маркса, які лічыцца больш рэакцыйным нават, чым габінэт Штрэзэмана, атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы. Як гэта ня дзіўна, але гэтыя паўнамоцтвы ён атрымаў дзякуючы галасом нямецкіх сацыял-дэмакратаў з Шэйдэманам на чале. Нямецкая сацыял-дэмакратычная фракцыя гэтым паказала, як далёка адыйшла яна ад запраўднага зразуменьня патрэбаў нямецкіх работнікаў і зусім зразумела, што сацыялістычныя нізы асудзілі паводзеньне сваіх лідэраў, выражаючы ім недаверые, як гэта было на кангрэсе саксонскіх сацыялістаў у Дрэздэне.

А тым часам палажэньне работніцкіх масаў усё пагаршаецца, лік безработных расьце. У розных гарадох Нямеччыны, асабліва ў акупаваных абшарах, дайшло да галодных разрухаў. Акупацыйныя войскі і паліцыя жорстка распраўляюцца з галоднымі работнікамі. Кожны дзень газэты прыносяць весткі аб страляніне ў работнікаў, забітых і раненых.

## ІТАЛІЯ.

У Мілане адбыўся кангрэс італьянскіх сацыялістаў. У часе кангрэсу фашысты пасьля кожнага паседжаньня рабілі вобыскі ў найбольш выдатных учасьнікаў кангрэсу, а нават у заграпічных дэлегатаў. Наагул існавала небясьпека, што кангрэс будзе разагнаны. На кангрэсе сьцьверджаны страшныя прасьледаваньні сацыялістычнага руху пад фашыстаўскай дыктатурай у Італіі, якія прыпамінаюць сабою эпоху інквізыцыі. Шмат хто з сацыялістычных пасלоў маюць права прабываць у краі толькі пад варункам, што ня будуць мець зносінаў з сваімі выбаршчыкамі. Сацыялістычны рух і профэсыянальныя саюзы перажываюць цяжкія часы лік сябраў легальных арганізацыяў паменшыўся, але штучна падтрымліваемыя фашыстаўскія саюзы ня маюць послуху сярод работнікаў. На кангрэсе раздаваліся галасы за аб'яднаньне з максымалістамі і камуністамі.

## КІТАЙ.

Англія, Францыя, Злучаныя Штаты, Італія і Японія зрабілі супольную дэманстрацыю сваімі флётамі адносна Кітаю з тэй прычыны, што кітайскі прэзыдэнт Сун-Ян-Сэн мае замер пазбавіць капіталістаў памянёных дзяржаў тых канцэсіяў, якія яны атрымоўвалі ў Кантоне і іншых портах, згодна дагаворамі пасьля вядомага паўстаньня кітайскіх боксэраў.

## АНГЛІЯ.

Першыя весткі аб выніках выбараў у Англіі сьцьвярджаюць значнае павялічэньне мандатаў Работніцкай Партыі і лібэралаў. Консэрватыўная партыя страціла частку мандатаў і наўрат ці будзе мець абсалютную большасьць у парлямэнце, якую мела дагэтуль.

# З газэт.

## Увагі на часе.

У Варшаве адбыўся суд над двумя польскімі афіцэрамі, Багіньскім і Вечоркевічам, вінавачанымі ў тэрарыстычнай дзейнасьці. Суд прызнаў іх вінаватымі бадай выключна на аснове паказаньняў нейкага Цэхноўскага, які сам арганізовываў тэрарыстычную групу і пасьля даносіў на яе паліцыі. Абодва падсудныя засуджаны на кару сьмерці.

З прычыны гэтага працэсу „Robotnik" друкуе гэткія дужа цікавыя ўвагі:

> Увесь абвініцельны акт у гэтай справе, усесь судовы працэс апіраўся выключна на паказаньнях правакатара Цэхноўскага, якому рабіў допрос надкамісар Пёнткевіч.
>
> І гэта найбольш сумная рыса гэтае сьледчае працэдуры. Зьяўляецца гэткі Цэхноўскі і заяўляе: я—„ідэйны камуніст", мяне ўцягнулі ў тэрарыстычную арганізацыю, якае мае зносіны з Саветамі,—выдам учасьнікаў змовы. І вось надкамісар Пёнткевіч навучае „навярнуўшагася" грэшніка, як павінен далей рабіць: мае быць руплівым сябрам арганізацыі, прыймаць учасьце ў падгатоўцы замахаў, а як замахі дасьпеюць—выдаць учасьнікаў...
>
> Ці гутарка была даслоўна гэткая—ня ведаем. Але гэткі быў зьмест яе, гэткі сэнс. З пазваленьня ўлады павінна была далей ісьці „работа"—дзеля ляпейшага выкрыцьця яе...

Якія-ж вынікі дае ўжываньне гэткае сыстэмы? „Robotnik" дае на гэтае пытаньне вось які адказ:

> Правакатарства — гэта *гадаваньне злачынцаў*. Правакатар—гэта заўсёды фігура бясчэсная, наскрозь здэмаралізаваная, ня маючы што траціць: ён ашуківае і абманывае абедзьве староны—і тых, каго правацыруе, і тых, хто ім карыстаецца. Яго інтэрас вымагае, каб злачынствы істнавалі: дзеля гэтага будзе да іх заахвочываць, будзе іх арганізовываць, будзе імі кіраваць. Ён хоча ўзьвялічыць свае заслугі ў вачах сваіх паліцэйскіх пратэктараў: дзеля гэтага, у патрэбе, будзе ўблутываць бязьвінных людзей, будзе выдумываць злачынствы і г. д.
>
> Вось як выглядае правакацыя. А як выглядае паліцыя, што карыстаецца правакатарамі? Няма лепш і шыбчэй дзеючага спосабу дэмаралізацыі паліцыі, як правакатарская сыстэма. Пры гэтым „выгодным спосабе вельмі часта здараецца, што паліцыя стаецца тварыцелькай змоў і замахаў, якія, ведама, пасьля з вялікім шумам „выкрывае". Другі вынік правакатарскае сыстэмы—гэта поўная няздольнасьць запраўды сачыць за злачынствамі.

З гэтым нельга не згадзіцца: найлепшы доказ гэтага—свабодная „дзейнасьць" Мухі і падобных яму „рыцараў гасьцінца", або забойства першага прэзыдэнта Польшчы, Нарутовіча, або выбух у цытадэлі, вінавайцаў якога, ведама, дагэтуль ня выкрылі...

„Robotnik" далей піша:

> У нашай маладой дзяржаве маем ужо расьцьвет правакатарскае сыстэмы. Выключна на даносах правакатараў былі абапёрты два апошнія палітычныя працэсы: Багіньскага і Вечаркевіча, ды замах Махны. У апошняй вінавачанага апраўдалі. У першай абодвых падсудных засудзілі на сьмерць.

Калі ўжо гаварыць аб прыкладах, дык нам, беларусам, успамінаецца беластоцкі працэс 45 беларусаў, у якім ролю правакатара іграў шпік Ленкевіч. А сколькі яшчэ такіх працэсаў наперадзе! Дый выступленьне судзьдзі Віктара Багданава, якое было надрукавана ў прошлым нумары „Змаганьня", красамоўна гаворыць аб ролі правакацыі ў „дзівенскай справе".

> Так піша „Robotnik"—не рабілася нават у царскай Расеі. Тамака былі дзьве катэгорыі правакатараў: адны, як асабліва карысныя для ўраду, былі ўкрываны, але на іх ніколі не пазываліся на судзе. Паказаньні другіх служылі за матар'ял сьледзтва і абвіненьня, але тады і іх — прынамся дзеля паказу, дзеля формы — цягнулі да адказу і нават каралі, хаця з палёгкай.
>
> У нас правакатар, які сам прызнаецца да ўчасьця ў праступленьні, выступае на судзе як староньні сьведка, і на яго паказаньнях будуецца—ўсё.

Урэшце трэба адзначыць, што „Robotnik" робіць закід міністру ўнутраных спраў, Керніку які

> загадаў спыніць сьледзтва, хаця паводле паказаньняў Цэхноўскага арыштавалі толькі некалькі ўчасьнікаў змовы, а Цэхноўскі заявіў, што іх было больш за *сорак*.
>
> На судзе справа прыпыненьня далейшага сьледзтва ня была выясьнена.

Выпікам усяго гэтага зьяўляецца гэткая заява „Robotnika":

> Магчыма, што Багіньскі і Вечаркевіч належалі разам з Цэхноўскім да нейкае тайнае арганізацыі. Але нават на гэта не дадзены пераконываючыя доказы! А тым менш ведаем, ці арганізацыя Цэхноўскага—пазафіктыўнымі замахамі рабіла або мелася рабіць запраўдныя замахі.

Урэшце „Robotnik" адзначае, што *пасьля* арышту Багінскага і Вечаркевіча адбыўся дынамітны замах на памяшчэньне вар-

ніцтва, астаўпяючы кожнай групе неабмяжованую свабоду вядзеньня каапэратыўнай прапаганды, паводле ўласных мэтадаў. Калі-б Польскі саюз быў запраўды паліітычна нэйтральным, нічога ня меў-бы проціў гэтага і згадзіўся-б, што на каапэратыўным грунце пераможа тая ідэолёгія, якая знойдзе больш староньнікаў. Аднак гэтага Польскі саюз зрабіць ня можа, бо тады ягоныя буржуазныя прыяцелі зрабілі-б яму закід, што пазваляе разрастацца работніцка-клясовай гаспадарцы. У гэткім выпадку Польскі саюз страціў-бы для буржуазіі ўсялякую вартасьць.

На сёлеташнім Кангрэсе паўтарылася тая-ж самая сытуацыя. Работніцкі саюз запрапанаваў рэзалюцыю гаспадарчага супрацоўніцтва, а Польскі саюз прыкінуўся, што аб гэтым нічога ня ведае і заклікае іншыя саюзы да „зьліцьця", г. зн. адрачыся ад сваіх праграмовых асобнасьцяў.

Зразумела, што да нічога рэальнага гэта не магло давясьці.

Дакладчык Польскага Саюзу, п. Ромуальд Мельчарскі, чуючы за сабою падтрыманьне ўзьнімаючайся цяпер рэакцыйнай хвалі, і лічучы, што ў гэтак добрыя часы уступкі для работніцкіх паглядаў беспатрэбны, вярнуўся нават да сваіх даўнейшых каапэратыўных концэпцыяў. У 1917 г. п. Мельчарскі засьцярагаўся проціў таго, што быццам верыў, што сама каапэрацыя здолее перабудаваць сацыяльны лад; гаварыў тады аб нацыяналізацыі некаторых галінаў сацыяльнай гаспадаркі; абвяшчаў таксама, што каапэрацыя ня можа разьвівацца бяз шырокіх грамадзкіх свабодаў, без магчымасьці легальнага выяўленьня ўсялякіх перакананьняў.—Цяпер той-жа самы п. Мельчарскі прызнае самыя наіўныя утопіі аб поўнай самавыстарчальнасьці каапэратыўных крамак; цьвердзіць, што пад капіталістычнаю ўладаю адбываецца вольная канкурэнцыя каапэрацыі з капіталам і што капітал сам уступіць, калі каапэрацыя выявіць сваю гаспадарчую высшасьць. Словам—работніку да змаганьня з капіталізмам патрэбны толькі „нэйтральныя каапэратыўныя крамкі". Урэшце п. Мельчарскі ёсьць цяпер глухі і сьляпы на паліцэйскія прасьледаваньні работніцкіх каапэратываў, на адсутнасьць у Польшчы элемэнтарных грамадзянскіх свабодаў і разам з усей буржуазіяй хоча толькі, каб гэты дабрабыт трываў як найдалей.

З работніцкага боку адказваў п. Мельчарскаму пасол З. Зарэмба, які даказваў, што каапэратыўны рух можа разьвівацца толькі ў цеснай лучнасьці з клясовымі работніцкімі арганізацыямі, перадусім з прафэсыянальнымі саюзамі, а ідэёва апірацца на сацыялістычных паглядах. Як прадстаўнік клясавай лявіцы ўзяў снова таксама і ніжэйпадпісаны.

Як я ўжо гаварыў, пункт аб адносінах каапэрацыі да дзяржавы быў зьняты з парадку дня. Прынцыповы рэфэрат аднак на гэтую тэму быў прачытаны яшчэ перад зьездам. Дакладчык п. Рапацкі дамагаўся *поўнай незалежнасьці* каапэрацыі ад дзяржавы. Аднак дзеля таго, што гэткае становішча знаходзіцца ў рэзкай супярэчнасьці з грамадзкім жыцьцём, калі дзяржава ўсюды ўмешваецца і калі ўласьціва нічога ня робіцца паміма дзяржавы, п. Рапацкі прымушаны быў пратэставаць проціў дужа невыстарчаючаму прадстаўніцтву арганізаваных спажыўцоў у некаторых дзяржаўных установах і дамагацца, каб дзяржава прызнала каапэратыўныя арганізацыі „афіцыяльным прадстаўніцтвам шырокіх масаў спажыўцоў". Таксама пратэст проціў маёрызацыі спажыўцоў праз прадуцэнтаў у дзяржаўных установах, як і дамаганьне, каб дзяржава лічыла каапэратывы за прадстаўнікоў спажыўцоў — зьяўляецца вельмі слушным, але як гэта пагадзіць з поўнай незалежнасьцю каапэрацыі ад дзяржавы?

Асаблівай азнакай рэфэрату п. Рапацкага зьяўляецца паслугоўваньне выражэньнямі, у якіх трудна дагледзець якога-небудзь сьціслаазначанага значэньня.

Да гэткіх выражэньняў трэба залічыць напр. цьверджаньне, што дзяржаўная арганізацыя прадстаўляе, паводле п. Рапацкага, чыньнік консэрватыўны, а каапэратыўная арганізацыя — паступовы. Што гэта знача, трудна адгадаць. Аснаўная памылка знаходзіцца ў параўнаньні рэчаў зусім не спаўмерных. Гаварыць аб праціленжнасьці паміж каапэрацыяй і дзяржавай, падобна таму, калі казаць аб праціленжнасьці напр. паміж акцыйным таварыствам і дзяржавай. паміж праф. саюзам і дзяржавай. Гэткае сапастаўленьне даказвае толькі, што аўтар сіліцца выявіць свае сымпатыі да каапэрацыі і сваю, праўда дужа ўмяркаваную, няпрыхільнасьць да дзяржавы. Але ані тэорытычных, ані практычных вывадаў з гэтага зрабіць нельга.

Словам—тыя пробкі тэорытычных формулаў, якія Польскі саюз прырыхтаваў на Кангрэс—гэта толькі мешаніна нейкіх ласкутоў мяшчанскага лібэралізму. Быццам адчуваючы адсутнасьць грунту пад нагамі, п. Мельчарскі ў апошнім слове дакладчыка зусім не бараніў сваіх прынцыповых палажэньняў, а п. Рапацкі дайшоў да зусім неспадзяванага выпадку, што спрэчка паміж староньнікамі клясовай барацьбы і т. зв. „нэйтральнымі" ёсьць толькі спрэчкай аб пустыя словы.

Так, аб пустыя словы! але хіба толькі для тых, якія, як п. Рапацкі, ужываюць словы, не прыдаючы ніякай вагі да іх значэньня.

Затое сацыяльныя тэндэнцыі Польскага саюзу зусім выразныя: ідзе аб тое, каб закінуць у работніцкія головы „нэйтральнага" замучаньня паняцьцяў, а тым самым аб змаганьні з клясовай ідэолёгіяй, ці аб абароне буржуазнага сьвету. Гэтую барацьбу з клясовай ідэалэгіяй нэйтральныя каапэратары ўмеюць вясьці ўпарта і гэтая барацьба ёсьць запраўднай мэтай іх сацыяльнай дзейнасьці.

Кангрэс прынёс толькі тую карысьць, што прымусіў „нэйтральных" каапэратараў выявіць свой запраўдны твар. Дзеля гэтага варта было браць у ім учасьце і дзеля гэтага варта гаварыць аб ім.

(Nowa Kultura № 12).

шаўскага акружнага работніцкага камітэту П.П.С., зроблены такім-жа спосабам, як і папярэднія. І газэта цьвёрда трэбуе, каб прыпыненае п. Кернікам сьледзтва было даведзена да канца, каб была выяўлена ўся праўда чысьленых дынамітных замахаў, якое ня выявіў суд над двума афіцэрамі.

Для нас, беларусаў, правакацыя зьяўляецца асабліва небясьпечнай: розныя фікцыйныя „змовы", „выкрываньня" Ленкевічам і другімі правакатарамі, вельмі блага адбіваюцца на палажэньні ўсяго—ні ў чым не вінаватага—беларускага насяленьня ў Польскай Рэспубліцы.—Ці не пара палажыць канец правакацыі наагул?!

## Агляд жыдоўскай прэсы.

*(Конфэрэнцыя польскай лявіцы з нацыянальнымі меншасьцямі, як акт куртуазіі.—Наступ рэакцыі і аб'яднаны фронт пролетарыяту краю. — „Straszek żydowski", як апошнія падрыгі правіцы).*

Віленскі „Tog" з задаваленьнем адзначае факт абрадаў усей соймавай лявіцы, не выключаючы нацыянальных меншасьцяў. Затое пасол Прылуцкі ў „Momencie" стараецца даказаць, што канфэрэнцыю трэба лічыць толькі за акт куртуазіі, бо

> „не апрацавана нават мінімальнае праграмы, не падпісана пратаколу, які зьвязываў-бы абездзьве староны. Разыходзіліся з тым, што старшыня сабраньня мае права склікаць падобныя нарады. Права, але не абавязак. Іначай прыпадковая нарада і не магла закончыцца".

Прыводзячы факт галасаваньня соймавай фракцыі P. P. S. проціў жыдоўскіх школаў, п. Прылуцкі робіць вывад, што

> „яшчэ далёка да паразуменьня. Ня ёсьць хіба публічным сэкрэтам, што польская дэмакратыя ня мае шчырай дэмакратычнай праграмы адносна да нацыянальных меншасьцяў".

На гэтую самую тэму „Unzer Frajnd" піша:

> „Польская лявіца павінна зразумець, што толькі разам з нацыянальнымі меншасьцямі можа яна праціваставіцца рэакцыі. Важным ёсьць прызнаньне патрэбы аб'яднанага фронту ўсіх апазыцыйных сілаў краю. Раней ці пазьней аб'яднаньне павінна знайсьці рэальнае выражэньне ў жыцьці, паскольку польская апазыцыя не захоча быць раздушанай паміж коламі рызгуляўшайся рэакцыі".

Пасол Грынбаум выказвае ў „Najer Hajnсіе" гэткія думкі ў зьвязку з ухвалай Сойму аб выданьні сацыялістычных паслоў:

> „Палітычны сэнс гэтай пастановы ясны. Правіца не затрымліваецца пасярод дарогі. Яна рашуча йдзе да сваей мэты: да задушэньня і стэрорызаваньня сацыялістычнага руху. Урэшце яна таксама паступіла з усялякімі рухамі ці то грамадзкімі, ці нацыянальнымі, на якія наткнулася на шляху да самаўлады, да перарабленьня Польшчы на нацыянальную паліцэйскую дзяржаву. Польскай правіцы застаўся толькі адзін вораг—польскі сацыялізм, бо іншыя ворагі, як камуністы, Пілсудскі і, натуральна, „інородцы" з жыдамі на чале ляжаць, як пыл, пад нагамі трыумфуючай народовай дэмакратыі. Цяпер надыйшоў час, каб польскі сацыялізм, які калісьці выхваляўся як патрыятычны і падпора дзяржавы, быў абвешчаны ворагам дзяржавы, ворагам польскага народу".

„Unzer Folkscajtung" з гэтага факту робіць гэткі вывад:

> „Рэакцыя ў сваей барацьбе з работніцкай клясай пасунулася яшчэ на адзін крок далей. Яна ясна і дакладна заявіла, што ўжо пакінула рабіць розьніцу паміж пэпэсоўскім і не пэпэсоўскім работнікам. Наступ вядзецца на шырокім фронце проціў клясова-сьвядомага пралетарыяту. Дзеля гэтага настаў час, каб таксама ў работніцкіх радох перамагла ідэя, што ўвесь клясова-сьвядомы пралетарыят павінен супольнымі сіламі вясьці сваю абаронную барацьбу проціў гэтага наступу".

Галоўны публіцыст „Najer Hajntu" п. Гольдбэрг даказвае, што мусіць дрэнна чуецца правіца, калі ўжо прымушана карыстацца старым жыдоўскім пугалам:

> „Вось-жа „Wola Ludu"—орган Пяста—надрукаваў у апошнім нумары некалькі артыкулаў, якія зьмяшчаюць старыя байкі і інсынуацыі адносна да жыдоў. Неатрымана загранічная пазычка—вінаваты жыды, камуністы паднялі галаву ў Польшчы—таксама віна жыдоў і г. д. Здаецца яшчэ ніколі ў гэтай газэце не друкаваліся артыкулы, ад якіх веяла-б такой ненавісьцяй да жыдоў, як цяпер".

**М. Г.**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

**КАНФІСКАТА. Па загаду Камісара ўраду г. Вільні канфіскаваны № 15 „Змаганьня".**

**Канфіската літоўскіх газэт.** Сканфіскаваны № 47 літоўскай газэты ў польскай мове „Ziemia Ojczysta" і „Wileński Kalendarz Gospodarczy".

**Зацьверджаньне канфіскаты.** Камісар ураду г. Вільні паведаміў Сэкрэтар'ят Беларускага Пасольскага Клюбу, што наложаны праз яго арышт на брашуру пад загал. „Працэс 45 беларусаў у Беластоку", зацьверджаны пастановай Акружнага Суду ў Вільні 26 лістапада г. г.

**Вечарына.** Гурток Беларускіх Кабет у нядзелю 9-га гэтага лістапада ў залі Віленскай Беларускай Гімназіі ладзіць вечарыну на карысьць беларускага прытулку. Пасол кс. А. Станкевіч прачытае лекцыю „Беларуская мова ў XVI і XVII сталецьцях". Пасьля будзе пастаўлена п'еса „Зьбянтэжаны Саўка" і канцэртны аддзел. Пачатак а 5 гадз. вечара.

**Падзяка.** Ад палітычных вязьняў-беларусаў, засуджаных ў Беластоку летам бягучага году, атрымалі мы просьбу аб надрукаваньні ў „Змаганьні" ніжэй паданага:

*„Мы, ўсе вязьні па Беластоцкаму працэсу, шлём шчырую падзяку за памяць аб нас нашым братом-беларусам ў Амэрыцы. Шлём з-за кратаў турэмных сваё шчырае прывітаньне усім працаўнікам-беларусам.*

Ад імя ўсіх вязьняў **Вера Маслоўская**".

## Весткі з вёскі.

### Вобыскі.

У пагранічных паветах з Савецкай Беларусьсю павятовая пальская адміністрацыя праводзіць у шырокім маштабе вобыскі у мяйсцовай людnaсьці як ў мястэчковай, так і ў вясковай. Шукаюць найбольш аружжа і вайсковых рэчаў. Апошнімі часамі адбываліся гэткія вобыскі ў гмінах Радашкоўскай, Ракаўскай і інш.

Забіраны былі пры гэтых вобысках ня толькі вайсковыя рыдлёвачкі, фляжкі для вады, але і адзежа і абутак, маючыя падабенства да вайсковага, альбо што засталіся на руках у мяйсцовай люднасьці ад часоў сусьветнай вайны, то як набытыя часта за грошы, то як ўласнасьць тых людзей, ці па тых, што служылі ў войску.

Ня ведаючы, якія прыказы былі наконта гэткіх вобыскаў зьверху, мы ня можам удавацца ў цэлёвасьць гэтых распараджэньняў—хаця і дагадываемся аб прычынах іх — але сьцьвярджаем на падставе даходзячых да нас жальбаў ад людnaсьці, што яўныя і тайныя паліцыянты занадта дэталічныя рабілі вобыскі, забіраючы часта рэчы вайсковыя з адзежы нават значна паношанай.

Заарыштавана некалькі асобаў, ў якіх знойдзена хоць старое аружжа, паламанае, ці часткі яго.

**N.**

### Напады на двары.

Як нас паведамляюць з Несьвіжа, адбыліся ў апошнім тыдні лістапада месяца бяг. году напады невядомых людзей на двары Быхаўшчына, Зубкі і інш. ў Несьвіжскім павеце.

25.XI зроблены быў напад нейкіх „камароў" на двор пана Жаўняркевіча, Быхаўшчына, які паложаны ў Ланьскай гміне, Несьвіжскага павету. Нападаўшыя зьвязалі ўласьніка двара, яго арандатара п. Рымашэўскага і сьвяшчэньніка В. Валасовіча, а гаспадыню прымусілі паказаваць усё, што было каштоўнага ў іх доме. Забраўшы васьмёра коней і усё з маемасьці, што лягчэй было да перавозкі, нападаўшыся зьніклі ў невядомым напрамку.

# Дапісы.

## Беларусы у Латвіі.

### Краслаўка.

Краслаўскі адзел Т—ва „Бацькаўшчына" 1-га сьнежня г. г. маніцца адчыніць курсы беларусазнаўства, а таксама і латыскае мовы. Есьць надзея атрымаць ад беларускага аддзелу пры Міністэрстве Прасьветы і Культурнага фонду Латвіі грошавую дапамогу.

10 кастрычніка г. г. пачаліся заняткі ў Краслаўскай сельска-гаспадарчай школе, якая была адчынена беларусамі ў леташнім годзе і лічылася беларускай. У гэтым годзе ня гледзячы, што склад вучняў у сваей большасьці беларускі, школу лічаць інтэрнацыянальнай.

**Голас з Краслаўкі**

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Як пазнаць колькі пудоў важыць сьвіньня.

Купляючы або прадаючы сьвіньню, заўсёды бывае цікава ведаць колькі пудоў мяса і сала можна мець з гэтай сьвіньні. Ня ведаючы хоць прыблізнай вагі сьвіньні, можна надта лёгка ашукацца і пераплаціць лішнія грошы. Зразумела, што найлепшы спосаб адгадаць колькі пудоў сьвіньня, гэта проста зважыць яе. Ды справа у тым, што немагчыма заўсёды бывае знайсьці такую вагу, а на прастым бязьмяне ды йшчэ жывую сьвіньню —ня зважыш.

Каб пазнаць бяз вагі колькі пудоў можа важыць бітая сьвіньня ёсьць досыць просты спосаб, патрэбна толькі каб той, хто будзе купляць або прадаваць быў трохі граматны, або меў сабе пісьменнага памоцніка.

Спосаб гэты вось які. Трэба ўзяць істужку (касьнік) з паперы, або з тканіны і падзяліць яе на цалі. Гэтай істужкай перш мераць даўжыню сьвіньні ад патыліцы (паміж вушэй) да хваста па хрыбту і запісываюць або запамінаюць колькі цаляў даўжыні маець сьвіньня. Пасьля гэтага мераюць таўшчыню сьвіньні ў грудзёх каля лапатак. Калі будзе вёдама даўжыня і таўшчыня сьвіньні, тады памнажаюць лік цаляў даўжыні на лік цаляў таўшчыні сьвіньні. Тую суму, што выпадзе пасьля множыва, трэба падзяліць на 13—калі сьвіньня худая; калі сьвіньня на палавіну адкормленая, дык трэба дзяліць на 12; калі сьвіньня адкормлена добра на-сыта, дык сума дзеліцца на 11. Тое, што выйдзе пасьля дзяленьня, будзе паказываць вагу сьвіньні ў нямецкіх фунтах.

Каб лепей уразумець гэты спосаб пакажам на прыкладае, як трэба рабіць. Зьмераўшы сьвіньню ад патыліцы па хрыбце да хваста, вы знайшлі, што даўжыня сьвіньні = 42 цалі. Далей мерыце таўшчыню тулава сьвіньні каля пярэдніх лапатак (абвязываючы істужку кругом сьвіньні). Таўшчыня сьвіньні=48 цаляў. Цяпер вы множыце 42 на 48 і у вас выходзіць 2016. Уважайце, якая сьвіньня: худая, падкормленая на палову, або зусім выкармленая. Калі сьвіньня худая, дзяліце 2016 на 13; калі сьвіньня адкормлена на палавіну, трэба дзяліць на 12, а калі зусім адкормленая—на 11.

Скажам, што наша сьвіньня ня зусім худая, але і ня ёсьць надта сытая. У гэткім разе 2016 трэба дзяліць на 12. Падзяліўшы 2016 на 12 будзем мець 168. Гэта значыць, што зарэзаўшы сьвіньню, мы будзем мець з яе 168 нямецкіх фунтаў мяса і сала, апроч вантробаў.

Трэба ведаць што нямецкі фунт на адну пятую часьць больш нашага (нашых пяць фунтаў столькі колькі нямецкіх чатыры, а нямецкі пуд будзе нашых 48 фунтаў). Каб знаць, колькі будзе нашых фунтаў, трэба да 168 дадаць яшчэ пятую часьць. Але гэтага можна не рабіць, а адразу будзем узнаваць колькі будзе нашых пудоў сьвіньня. Для гэтага 168 трэба падзяліць на 32 і тое што выйдзе пакажыць нам пуды. Падзяліўшы 168 на 32 будзем мець $5^1/_4$. Гэта значыць што сьвіньня наша важыць 5 пудоў і 10 фунтаў.

Можа быць для каго-небудзь будзе незразумела чаму трэба дзяліць на 32, а не на 40 а гэта вось дзеля чаго: 168—гэта нямецкіх фунтаў; наш пуд на адну пятую часьць меншы за нямецкі: калі нямецкі пуд узяць за 40 фунтаў дык наш будзе толькі 32.

Зразумела, што пры ўгадываньні гэткім спосабам могуць быць памылкі, але памылкі гэтыя ня так значныя. Ды прадаючы, або купляючы сьвіньню непатрэбна угадаць вагу, зусім як раз „як у аптэцы". Калі няма патрэбы знаць вагу сьвіньні як найпраўдзівей, дык можна абыйсьціся і бяз меркі, а зьмерыць даўжыню і шырыню сьвіньні пядзямі, лічучы кожную пядзю па 7 цаляў.

## Курс на грошы.

**Варшава, 7-га Сьнежня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 3.600.000 |
| Фунты штэрл. | 15.800.000 |
| Франкі франц. | 197.000 |
| Франкі швайц. | 629.000 |
| Франкі бэльгійск. | 168.500 |
| Ліры італьян. | 157.000 |
| Польскі злоты | 580.000 |

Рэдактар-Выдавец М. Шыла.

Друкарня Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.